№ 1, снежань 2000 года



# МАЛАДЗІЧОК

Культурна-грамадская газета мястэчка Езярышча

Езярышчанскі замак 2
Літаратурная старонка 3
Прывітанне Врацлаву 7
Пяць вершаў паэта 8

## Падтрымліваць творчыя пачынанні

Ужо даволі доўгі час дзейнічае літаратурны гурток "Маладзічок", у якім займаюцца вучні, схільныя да творчасці. Мы вучымся пісаць вершы, з задавальненнем малюем краявіды роднай Беларусі або тое, што ідзе ад душы і хочацца пакласці на паперу. У мінулым годзе паспрабавалі напісаць паданні і легенды пра роднае Езярышча, склалі шмат вершаў пра наша мястэчка. А ў гэтым – зрабілі першыя спробы ў напісанні казак  і зразумелі, што гэтая справа гурткоўцам падабаецца нават болей, чым складанне вершаў.

Як настаўніца, я не магу не адчуць, што ў душах маіх вучняў жыве нешта светлае, сапраўднае, лірычнае, якое шукае выйсці праз вершы, малюнкі. Сардэчна ўдзячна не толькі членам клуба "Маладзічок" за іх добрую ўпартасць, працавітасць, жаданне ўсё ж такі знайсці рыфму, вобраз, тэму пры напісанні вершаў, але і бацькам, якія разумеюць сваіх дзетак, падтрымліваюць іх творчыя пачынанні і шчыра радуюцца першым поспехам.

Зараз мы прапануем наладзіць выпуск нашай мясцовай газеткі "Маладзічок". У газетцы будзе не толькі шырока прадстаўлена творчасць гурткоўцаў, але знойдзецца месца для матэрыялаў як пра гісторыю Езярышча, нашай Бацькаўшчыны, так і пра сучаснасць.

Месяц на небе нараджаецца Маладзічком і праз хуткі час становіцца начным Сонцам — Поўняй. Маладзічок заўсёды дае надзею на светлае, лепшае заўтра. А ці бачыцца нам наша заўтра светлым, лепшым, чым змрочнае сёння? Каб лепш разгледзіць нашу будучыню, запрашаем нашых суайчыннікаў да супрацоўніцтва, супольнай творчасці. Наша жыццё зрабіць лепшым здольны толька мы самі. І першым крокам да гэтага будзе рэалізацыя творчых намаганняў на старонках "Маладзічка".

Хто ведае, можа пройдзе час, і езярышчанская зямля выпестуе сваіх паэтаў і пісьменнікаў, прамыслоўцаў і грамадскіх дзеячаў!

Поспехаў Вам, прыхільнікі "Маладзічка"!

*Таццяна Маранава*





# ЕЗЯРЫШЧАНСКІ ЗАМАК



ЕЗЯРЫШЧАНСКІ ЗАМАК, комплекс драўляна-земляных умацаванняў 14—17 ст. за 3 км ад г. п. Езярышча Гарадоцкага р-на, на востраве возера Езярышча, каля в. Мястэчка. Пляцоўка чатырохвугольнай формы, памеры 100Х120 м. З усходняга і паўночнага бакоў захаваліся валы вышынёй 2-4 м., выразна бачны месцы, дзе стаялі тры вежы. Дыяметр іх каля 15 м, вышыня насыпаў каля 7 м. З паўночнага боку прасочваецца роў, які аддзяляў замак ад астатняй тэрыторыі вострава. У час паводкі нізкая частка залівалася вадой, і замак ператвараўся ў астраўную крэпасць. Паводле польскага храніста Р. Гейдэнштэйна, у 16 ст. Езярышчанскі замак меў значныя ўмацаванні і разам і Полацкім замкам панаваў над «усім краем". У Лівонскую вайну 1558—1583 узяты рускімі войскамі (1565) і спалены, потым адбудаваны. У 1579 яго знішчылі ў час штурму войскі караля Стэфана Баторыя, пазней адноўлены. У пачатку 17 стагоддзя ў час пажару ўмацаванні замка згарэлі, адбудаваны па загаду караля Зыгмунта III Вазы езярышчанскім старостам К. Сакалінскім. У жніўні 1654 рускія войскі на чале з ваяводам Сямёнам Стрэшневым захапілі замак.

Замчышча абследаваў у 1950 Л. В. Аляксееў. У 1971 Г. В. Штыхаў зрабіў план замчышча і правёў шурфоўку (2х2 м). У 1979 В. М. Ляўко правяла раскопкі на плошчы 100 м$^2$ і прарэзку паўднёвай вежы з валам. Прарэзка паказала, што вышыня насыпу ад цэнтра да асновы 6 м, радыус — 12 м, ядро пачатковага вала з шчыльнай яркачырвонай гліны, вышынёй 1,5 м. Вал і насып пад асновай вежы раздзяляліся ровам глыбінёй 0,8—1 м.



На пляцоўцы, што была асновай вежы, выяўлены фрагмент (каля 1 м) з сумесі гліны, пяску, гравію і дробнага камення. Вышэй яго залягала праслойка цьмянай афарбоўкі з вялікай колькасцю вугалю і попелу, над якой зафіксаваны рэшткі драўляных канструкцый. Яны перакрыты культурным пластом каля 1 м. дзе быў больш позні падмурак вежы, складзены з 2 ярусаў буйных валуноў. Знойдзеная кераміка сведчыць, што пабудова і аднаўленне вежы адносіцца да 14—15 ст. Гэта пацвярджаецца пісьмовымі крыніцамі, паводле якіх у 14 ст. існавала Азярышчанская воласць з цэнтрам у Азярышчы (цяпер Езярышча). Для абароны насельніцтва парубежнай воласці і быў, верагодна, пабудаваны замак. У разведачным раскопе плошчай 100 м$^2$ на паўднёвай ускраіне гарадзішча каля вала культурны пласт 0,15—0,4 м. У мацерыку выяўлена шмат ям, запоўненых попелам і шлакам. Большасць керамікі адносіцца да 14—15 ст.; паводле формы і арнаменту яна блізкая да матэрыялаў з Арэшка і Пскова, да-таваных 14—15 ст. Адзінкавыя знаходкі 16—17 ст. (паліваная кераміка, кафля) сведчаць, што ў гэты перыяд замак выкарыстоўваўся насельніцтвам як сховішча падчас ваенных дзеянняў. Частка керамікі адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і да 8—10 ст., што сведчыць аб наяўнасці тут паселішча яшчэ да пабудовы замка.

***Вольга Ляўко.***

**Энцыклапедыя "Археалогія і нумізматыка БЕЛАРУСІ" ( стар. 249)**

Бібліяграфія па тэме : "Езярышчанскі замак"


1.**Алексеев Л. В.** Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины. Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959 г.

2.**Брэжго Б.** Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933 г.

3.**Левко О.** Н. Феодальные памятники Северо-Восточной Белоруссии. Археологические открытия 1980 г. М., 1981 г.

4.**Ляшко В.** М. Замак Езярышча. Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Зборнік артыкулаў, Мн., 1989 г.

5.**Россия:** Полное географическое описание нашего отечества. Т.9. Санкт-Петербург., 1905 г.

6.**Сементовский А.** М. Памятники старины Витебской губернии. Санкт – Петербург., 1867 г.


**Ад рэдакцыі.** Прапанаваныя выданні яшчэ зусім мала вядомы на Гарадоччыне і рэдакцыя была бы ўдзячна, калі б гісторыкі, краязнаўцы прадставілі матэрыялы, прысвечаныя Езярышчанскаму замку. Чакаем вашых лістоў.

## Беларусь

*Калі хто на чужыне спытае:*
*- Ты адкуль? З якога ты краю?*
*Вельмі горда я адкажу:*
*- З Беларусі. З прыгожага краю.*
*Я табе пра яе раскажу.*
*Беларусь, як кляновы лісточак*
*На якім сотні кропель расы.*
*Для яе будзеш ты як сыночак,*
*Тут без бед пражывеш ты заўжды.*

**Алена Нішчацюк**

## Езярышча

*Езярышча маё – бы рамонак,*
*Гэта вельмі прыгожы пасёлак.*
*Езярышча славутае намі,*
*Упрыгожым яго ўсе мы самі.*

**Жэня Яўсеева**



# Літаратурная СТАРОНКА



## Вершы вучняў Езярышчанскай СШ Гарадоцкага р-на. Настаўніца роднай мовы – Маранава Таццяна Уладзіміраўна.

* * *

Шмат трывог прыносяць дзеці
Усім матулям у белым свеце.
Дабрыня ж матулі й ласка,
Як заўсёды, быццам казка.

З ёй утульна, добра дома,
Дзе з калыскі ўсё знаёма.
—Я люблю цябе, матуля,
Як заўсёды, зноў кажу я.

У ранку радасна прачнуся,
Зноў матулі ўсміхнуся,
І загляне тады сонца
Светлым промнем у аконца.

І прыгожа наша хата,
Шчасцем, шчырасцю багата.
За ўсё, дзякуй табе, мама!
Ад мяне і ўсіх таксама.

**Наталья Лобава, 11 кл.**

* * *

Прыгожая восень
Прыйшла да нас хутка,
Фарбуе лісточкі
Праз жоўтае футра.

**Юля Нікіфарава, 7б.**

* * *

Апошні гудок цягніка
Вось і ўсё...
Ужо мінула лета!
Дадому вяртацца пара.
Ах лета! Цудоўнае лета.
Купалася ў рэчцы я зранку
І сонца вітала на ганку.

* * *

Восень – чараўніца
Нячутна надышла
І апранула ўсё ў свае нарады.
На дрэвах каляровая ліства
І дрэвы сваяму апранку рады.

**Алена Нішчацюк, 7б**

* * *

Восень – прыгажуня,
Лес ты апранула
У яркае адзенне.
Рукавом махнула
Паляцелі птушкі
Ластаўкі, зязюлі
І прыгожа дрэвы
Ў золаце паснулі.

**Алена Мамыкіна, 7б кл.**

* * *

Восень ужо да нас прыйшла,
Непагоду прынясла.
Дажджлівыя хмаркі
Паплакалі трошкі
І ў лесе грыбоў –
Бяры хоць лукошкі.

* * *

Рукі роднай маці,
Рукі роднай маці
Усё рабіць умеюць,
Прыбяруць у хаце,
Вяжуць, шыюць, мыюць
І прылашчаць дзетак,
Есць дадуць жывёле...
Набяру я кветак,
Падару матулі.

**Іра Воранава, 7а кл.**

* * *

Матуля за дзіця сваё
Жыццё аддаць гатова,
Маленькае яшчэ яно,
Не ведае нічога.
Матуля з ім і дзень і ноч,
Вакол яго заўсёды,
А ворагаў прагоніць проч
Заслоніць ад нягоды.

**Воля Баркова, 7а кл.**

* * *

Надыходзіць восень,
У лесе ўсё заціхае.
Апранае ўсё ў чырвань
Восень залатая.

**Яўген Яўсеенка, 7а кл.**

* * *

Мая матуля дарагая,
Люблю цябе я ўсёй душой.
Ты мае думкі саграваеш
Гаворым мы пра ўсё з табой.

Мы дзень і ноч з табою побач,
Прашу цябе, мая радная,
Заўжды са мною гавары.

**Жэня Яўсеева, 7а кл.**

* * *

У хаце ноччу агеньчык гарыць
Матулі трывожна, матуля не спіць,
Я ад яе ў далёкім краю:
Вестку хутчэй да матулі пашлю:
"Як я сумую тут без цябе,
Ты дапаможаш пяшчотаю мне,
Як жа тужліва ў свеце адной,
Дачушцы тваёй дарагой."
Маці пачула і ціха сказала:
"Сэрца нас, дочка, любоўю звязала."

**Іра Клюева, 8 б кл.**

* * *

Дарагая мая матуля,
Кожны дзень табе кажу я.
Гэта цудоўнае слова мама,
Сёння скажу я таксама.

І нават цёмнай халоднаю ноччу
Дадому й заплюшчаўшы вочы прыкрочу,
Каб зноў мне сказаць: дарагая матуля,
Так моцна і шчыра цябе люблю я.

**Дзіма Дарожкін, 8б кл.**

* * *

Восень пануе і холадна стала
Птушкі ў вырай ляцяць.
Ну, а на ўзлеску, нібы аганёчкі,
Гронкі рабіны гараць.



# Паданне пра Езярышчанскі замак



Вялікае і прыгожае наша возера Езярышча. На гэтым возеры ёсць востраў, а на тым востраве, кажуць, стаяў раней замак. Жыла ў тым замку прыгожая князёўна. Была яна добрай, любіла прыроду, звяроў і птушак. Была яна і вельмі багатая, але не ганарылася гэтым.

Аднойчы злы чарадзей захацеў узяць яе за жонку, але не таму, што кахаў яе, а каб прыбраць да рук яе багацце.

Адмовіла яму прыгажуня, бо не хацела ісці за злыдня. За гэта наслаў калдун на князёўну доўгі сон.

У той час людзі з берага бачылі, як увечары за расчыненымі варатамі замка блішчаць скарбы, але баяліся падплываць бліжэй, бо моцны вецер гуляў вакол замка, быццам сама прырода ахоўвала сон прыгажуні.

Але аднойчы знайшоўся чалавек, які хацеў прабрацца ў замак, каб набраць золата. Але падняўся такі вецер, што з вялікай сілай закружыў вакол замка, падняў яго ў вышыню і панёс няведама куды. Мабыць у той край, дзе няма злосці і сквапнасці.

А на востраве толькі дзе-нідзе часткі муроў засталіся ад былога замка.

**Ніна Міхайлава, 6 кл.**

---

Так павялося, такое бывае:
Жоўтае лісце з дрэў ападае,
Ціха шапочуць нешта лісты,
Дрэвы чакаюць прыходу зімы.

**Антон Ларыёнаў, 11 кл.**

* * *

У восень вечарамі выйдзеш пагу
ляць,
Лісцікі збіраеш, хочацца спяваць.
Кветкі адцвітаюць,
Юыццам засынаюць.
Дрэвы нібы свечка
Полымем гарыць,
Лісце каляровым
Дываном ляжыць.
Сонца развітальна
Ласкава блішчыць.

**Алена Шыранская, 11 кл.**

* * *

Восень звоніць
У звон свой медны,
Ецер трубіць у доўгі рог,
І чаруе нас паветра,
Што асенні час прынёс.

**Вікторыя Журава, 11 кл.**

* * *

Матуліны вочы!
Матуліны вочы,
Як зоркіны дочкі,
Што свецяць уночы.
Пяшчоты іх прагнуць
І луг каляровы,
І кветкі ля ганку
І дочкі ля дому.

**Вольга Баркова, 7 а кл.**



## Вясна

Іду я па лесе.
Як добра вясной!
Усё расцвітае.
Здзіўляе ліствой.

Там птушка спявае,
Там лось праскакаў,
І дзяцел застукаў!
Вясну бо вітаў.

**Іван Сініцкі, 7б кл.**

* * *

Маці! Здаўна нам вядома
Гэта любімае, шчырае слова.
Яно не глухое, яно дарагое!
Мама, матулечка, маці –
Любімае слова любога дзіцяці.

**Артур Кайзер, 8 б кл.**

* * *

Мамино сердце для каждого крош
ки –
Искорка счастья, вспышка мечты,
Мам, научи меня
Быть хоть немножко
Милым и добрым, таким же как ты.

**Иван Шершнев, 8б кл.**

* * *

Мама, мілая мама!
Няма даражэй цябе ў свеце,
Пра гэта я ўсім раскажу,
Што вельмі табой даражу,
Скажу я і ветру, і морю,
Ты сонечны свет нада мною,
Ты ласку сваю не шкадуеш,
Бо вельмі мяне ты любіш.

**Наташа Альшэўская, 8б кл.**

* * *

Я люблю цябе, матуля,
Даражэй цябе няма.
Ты мне ўсё заўжды даруеш,
Дорыш столькі мне цяпла.

**Юля Нікіфарава, 7 б кл.**

## Дзень матулі

Дзень матулі, дзень мамы,
Ён бабулін дзень таксама.
Таму, што бабуля – двойчы матуля.
Мама тваёй мамы
Была з табой ласкавай.
Бо ў сівенькае бабулі
Вочы поўныя святла,
Усе клопаты пра ўнучку
На сябе яна ўзяла.
Забаўляла і вучыла,
І сачыла за табой,
І па схіленай галоўцы
Цёплай гладзіла рукой...
Дык ідзі і павіншуй
Усіх матуль і ўсіх бабуль!

**Ганна Кочарава, 8 б кл.**

## Мая матуля

Мая матуля лепш за ўсіх,
Яе люблю я больш усіх.
Яна заўжды харошая,
Пяшчотная, прыгожая.
Я гаварыць такое мушу
І веру, што заўжды не хлушу.

**Іра Марковіч, 8б кл.**

## Вершы пра Бацькаўшчыну

Беларусь ты мая дарагая,
Вось што ведаю я для сябе:
—У маім сэрцы адна ты такая,
Не забыць мне ніколі цябе.

Хоць наеду ў краіну іную,
Але думкай цябе не міну,
І пад старасць галоўку сівую
У паклон да цябе нахіну.

**Іра Воранава, 6 кл.**

### Мая Беларусь

Ціха пахіснецца дрэўца,
Бусел у небе крыламі,
Дзесьці ў гушчары пяе крыніца...
Хто красу такую праміне?!

**Наталля Лобава, 10 кл.**

### Радзіма

Свеціць ласкава сонца Радзімы,
Саграває любімы мой кут,
Езярышча – прытулак адзіны,
Вольна, добра і радасна тут.

**Наталля Усевалодава**

* * *

Беларусь, мая Радзіма,
Беларусь, мой родны край,
Не забыць цябе, Айчына,
Мне ніколі, так і знай.

Край ты мой дзівосны,
Край ты мой адзіны,
Назаўсёды ў сэрцы
Лепшым будзеш ты мне.

**Іван Барысенкаў, 10 кл.**

* * *

Люблю Радзіму я сваю,
Пра гэта ў песнях я пяю,
Заўсёды я сюды вярнусь,
Завецца край мой – Беларусь.

**Юля Скуратовіч, 10 кл.**

* * *

Ты, Беларусь, — мая Радзіма,
Мне лепей края не знайсці.
Глядзіш блакітнымі вачыма,
Здалёк гатоў к табе ісці.

**Іван Шаршнёў, 7 б кл.**

* * *

Дарагая мая Радзіма, мая Беларусь,
Як сын да матулі – да цябе гарнусь.
У сэрцы маім заўсёды іскрынка гарыць,
Каб мне свой кутачак нідзе не забыць.

Я заўсёды гляджу з захапленнем
На радзіму пад сонца—праменнем,
Зіхаціць яна ўся і іскрыцца,
Як у садзе празрыста крыніца.

**Дзіма Дарожкін, 7б кл.**

* * *

Беларускі родны край,
Падзівіцца ты мне дай
І з лугоў тваіх шырокіх
З кветак – красак сінявокіх
Ды з бліскучых ручаёў,
Што бруяцца між дуброў.

**Ганна Пахоменка, 6 кл.**

* * *

Не забуду ніколі я роднага краю,
Пяшчотны той шум вялікага гаю.
Усіх тых лясоў, азёраў, палёў
У небе адбітак заранак – агнёў.

**Вольга Блажэвіч, 7 кл.**

* * *

У нашым Езярышчы
Рачулка ёсць адна,
Красуюць у Езярышчы
Азёры і паля.

І лес у нас прыгожы,
Ялінкам нет канца.
Такое Езярышча,
Любімая Зямля!

**Андрэй Жаркоў, 6 кл.**

Сегодня учебного года конец,
Нарядные мы на линейке стоим,
Улыбкам детей вторит юный птенец,
Что празднично машет крылом своим.

**Юля Агапова, 6 кл.**

## Вершы з нагоды апошняга званка



Вось апошні званок празвінеў,
І ніхто не ідзе на ўрок.
На лінейцы дырэктар сказаў:
Адпачніце ў летні часок.

**Іра Воранава, 6 кл.**

* * *

Мае сябры, вось год мінуў,
Званок гучыць для нас
І май ужо тперагарнуў
Вучобы цяжкі час.

Ля школы ўжо духмяны бэз
Расцвіў ва ўсёй красе,
І лета ўжо ў раскаце гроз
Нам веды панясе.

Навучыць нас любіць свой край
І сцежачкі ў расе.
Канікулы для вучняў – рай,
І ў гэта вераць усе.

**Ірына Клюева, 7 кл.**

* * *

Звініць апошні ўжо званок,
Ісці не трэба на ўрок.
Цяпер наступае лета,
Што сонейкам цёплым сагрэта.

Хоць будзем мы адпачываць,
Настаўнікаў не станем забываць,
Яны свае нам веды далі,
Да пабачэння нам сказалі.

**Надзя Дадонава, 7 кл.**

* * *

Прагучаў сёння званок,
Ён не кліча цяпер на ўрок.
Пачалося вясёлае лета,
Летнім сонцам зямелька сагрэта.
І завуць нас далёкія далі,
Мы ў дарогу рукзак ужо сабралі.
Нас чакаюць лясы і дубровы,
Шчэбет птушак у час вячаровы.
Будзем улетку мы добра гуляць,
Але і школу не забываць.

**Юра Яшчанка, 6 кл.**



# Нашы смяшынкі

У летніку дзяўчаты дзяжурылі ля брамкі. Да іх падыйшла жанчына і спытала:

– Дзяўчаткі, тут цяля не праходзіла?

Галя недачула і запыталася:

– А з якога атрада?

Вучні пісалі сачыненне на тэму: "Як я адпачываў летам." Юля напісала: "Летам я адпачывала ў вёсцы, было весела. Я пасябравала з адной дзяўчынка. Аднойчы мы з ёй каталіся на веласіпедзе і ўпалі ў брудную лужыну. Добра адпачываць летам у вёсцы!"

**Масквіна Наташа, 11 кл.**

Алёна кажа дзядулі, паказваючы на паштальёна:

– Глядзі, да нас часопіс ідзе.

**Алена Цыбульская, 7 кл.**

Мы з братам глядзелі рэкламу, брат спытаў:

– Чаму гэта сланы лятаюць?

– Таму, што ў іх вялікія вушы.

**Яўген Яўсеенка, 7 кл.**

– Дзе твой тата?

– Ён на рыбе сядзіць.

**Іра Воранава, 7 кл.**

---

Сяброўкі пытаюцца ў Сяргейкі:

– Як цябе завуць?

– Хлопчык.

**Юля Дзярыбіна, 7 кл.**

Хлопчык убачыў, як сусед заводзіць машыну і, гледзячы на дым з-пад машыны, закрычаў:

– Тата, машына гарыць!

**Ганна Архірэева, 8 кл.**

Маленькая дзяўчынка абдымае сваю старэнькую бабулю. Тая кажа: "Унучка, ты мяне душыш ці абдымаеш?" Дзяўчынка адказвае: "Я цябе, бабулечка, так люблю, што ўдушыцельна абдымаю!"

**Ганна Архірэева, 8 кл.**

Бабуля пачула, як дзеці расшумеліся на кухні. Уваходзіць, а яны дастаюць з лядоўні яйкі, б'юць і прыгаворваюць:

– Дзед біў-біў – не разбіў,  
Баба біла-біла – не разбіла,  
А Маша з Сашам разбілі.

**Наташа Альшэўская, 8 кл**

* * *

Дон-динь, динь-дон!  
Нам приятен этот звон,  
Звенит как тонкий голосок  
Последний наш звонок.

**Катя Москалева, 7 кл.**



## *Спіс беларускамоўных выданняў*

| | Газеты | | Кошт на месяц |
|---|---|---|---|
| 63854 | Голас Радзімы | 1 | 250.000 |
| 63850 | Звязда | 5 | 225.000 |
| 63875 | Культура | 1 | 250.000 |
| 63856 | Літаратура і мастацтва | 1 | 250.000 |
| 63222 | Народная воля | 5 | 750.000 |
| 63867 | Настаўніцкая газета | 3 | 200.000 |
| 63125 | Наша Ніва | 4 в. на мес. | 256.000 |
| 63865 | Наша слова | 1 | 100.000 |
| 63124 | Пагоня | 1 | 600.000 |
| 63129 | Чырвоная змена | 4 | 1.100.000 |

# Прывітанне Врацлаву

Два гады таму, дзякуючы запрашэнню і гасціннасці пробашча Станіслава Пікуля з польскага горада Врацлава, група вучняў з Езярышча наведалася летам у Польшчу. Жылі мы там на тэрыторыі касцела. У першыя дні пазнаёміліся з пані Даротай, пані Аннай, пані Монікай, панам Мачакам, панам Кацпарам і іншымі. Для нас была падрыхтавана цікавая праграмма: з сястрой Актавіяй мы развучвалі польскія гульні і песні, наведвалі музеі, заапарк, фабрыку "Кока-колы", нават у горы з'ездзілі.

А яшчэ польскія сябры паклапаціліся, каб мы атрымалі добрае харчаванне. Дзяўчаткі, нават, жартавалі, што калі з'ядаць усё тое, што даюць на абед, то пасля і бацькі нас дома не пазнаюць.

Ва Врацлаве мы прабылі 23 дні. Горад уразіў сваёй прыгажосцю, веліччу, старадаўнімі будынкамі і гасціннасцю. На памяць мы прывезлі з сабой у Беларусь многа фотаздымкаў, паштовак з выглядам Врацлава. Колькі было ўражання! Калі мы вярнуліся дадому – расказвалі ўсё бацькам, сябрам, аднакласнікам.

У верасні мы пайшлі ў школу з новымі прыгожымі пеналамі, сшыткамі, алоўкамі, фламастарамі – падарункамі, якія прывезлі з Врацлава. А падарункаў было нямала – і цацкі, і ласункі, і практычныя рэчы.

Прайшло ўжо два гады з той пары, але нашы польскія сябры не забываюцца на нас, віншуюць са святам. А мінулым летам нас наведала пані Дарота, з якой мы моцна пасябравалі, увесь час хадзілі за ёй след у след. Нагаварыцца не маглі, наша мястэчка паказвалі, у госці запрашалі.

Вось і нядаўна мы зноў атрымалі віншаванне з Польшчы і шлём удзячнасць і прывітанне ад Сашы і Алёшы Беражных, Ірыны Клюевай, Алёны Маранавай, Сашы Калінкевіч і іншых. Хочам перадаць нашу ўдзячнасць праз газету.

Шчыра, ад ўсяго сэрца віншуем нашых сяброў з Врацлава з Ражством Хрыстовым, з Новым годам. Жадаем, каб лёс падарыў ім шчасце і дабрабыт за іх клопат, шчырасць і ўвагу, з якой прымалі нас у Врацлаве і з якой ставяцца да нас і зараз. Да гэтага пажадання далучаюцца і нашы бацькі.

*Ірына Клюева, Саша Калінкевіч.*


Развучванне песень з сястрой Актавіяй



# Пяць вершаў паэта

*Анатоль Мікалаевіч Канапелька – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар паэтычных кніг "Зямная сімфонія" (Мн., 1966) і "Сустрэчы" (Мн., 1979), а таксама шэрагу публікацый па праблемах сучаснай беларускай паэзіі і прозы. Працуе выкладчыкам беларускай літаратуры ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце, і шматлікія настаўнікі роднага слова з удзячнасцю помняць яго выкладчыцкую дзейнасць.*

*У новай кнізе "Музыка лістапада" (Вц., 1999) прадстаўлены, як новыя вершы, так і лепшыя творы з папярэдніх кніг.*

* * *

Я веру ў тое, што люблю,
я веру ў тое, што кахаю,
у сваю пакутную зямлю,
з якой усе мы ўзрастаем.
Яна не здрадзіць,
Не прадасць,
плыве ў сусвеце сціплай
знічкай,
калі патрэбна –
сілы дасць,
а трэба – да сябе пакліча.

* * *

Я слова роднае лаўлю.
Яно святое цудадзейства.
Яно мудрэйшае ўмельства
сказаць пра тое, што люблю,

Яно спявае, як прамень,
які зямлю злучае з сонцам.
Яно бывае абаронцам
у цяжкі для Радзімы дзень.

Я з ім смуткую і смяюся,
страчаю восень і вясну.
Яно, як горыч Беларусі,
якой сягоння не да сну.

**ПЕРШЫ СНЕЖАНЬ**

Вось дык снежыць,
вось дык снежыць
першы снежань,
першы снежань!
Не прыпомніць нават памяць,
ці была такая замець.
Першы снежань, лёгкі, пухкі.
Сам ён просіцца ў рукі...
Як хацеў бы я паверыць
слову знойдзенаму, песні
і жыццё свае праверыць,
летуценні здзейсніць.
Ці такі пагляд бязмежны,
ці такі мой крок, як трэба?..
Ах, як снежыць
першы снежань!
Ах, як неба снежыць!

* * *

Трывогу ў сэрцы разумею,
бо вось ужо каторы год
я адчуваю, што нямею,
што абарвецца радавод,
што болей гаманіць не буду,
што ўсмешкі людскай не сустрэць.
Манкурты, розныя прыблуды
у маёй краіне правяць рэй.
Яны, асвечаныя чортам,
жыруюць смачна, смачна п'юць.



Яны і у розніцу і оптам
Радзіму нашу прадаюць.
0, Божа мудры, літасцівы!
Укленчыўшы, малю ў журбе:
скажы, ці будзе люд шчаслівым,
ці абароніць сам сябе?..

**Васілю Быкаву**

Журботная ўсмешка Быкава.
Мудры прышчур вачэй.
А ў іх агеньчыкі звыклыя,
ад якіх на сэрцы ярчэй.
Позірк знаёмы, прарочы,
праніклівы...
Бачацца ў ім
дні франтавыя і ночы,
пажарышчаў горкі дым,
і незваротныя страты,
і вера ў заўтрашні дзень...
Сейбіт, руплівы араты
добрых, як праўда, надзей.
На вятрах-скразняках распяты
жураўліны трывожны крык.
Высока Вамі ўзняты
Апостальскі крыж.
Праведны і суровы,
набліжаецца новы век.
На скрыжалях святыя словы:
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ,
ЖЫВЕ!..

## *Спіс беларускамоўных выданняў*

**Часопісы**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 74820 | Беларусь | 6 | 270.000 |
| 74822 | Бярозка | 6 | 150.000 |
| 74844 | Вожык | 6 | 100.000 |
| 74845 | Вясёлка (дзіцячы) | 6 | 80.000 |
| 75086 | Лесавік (дзіцячы) | 3 | 165.000 |
| 74957 | Маладосць | 6 | 240.000 |
| 74985 | Полымя | 6 | 250.000 |
| 74981 | Першацвет | 6 | 200.000 |
| 74823 | Роднае слова | 6 | 250.000 |
| 74988 | Спадчына | 3 | 650.000 (2мес.) |
| 74830 | Беларускі гістарычны | 2 | - |

Заснавальнік і рэдактар: *Таццяна Маранава.*
Адрас: *211580, Гарадоцкі р-н, г.п. Езярышча, вул. Чкалава, 1.*



*Выдадзена пры падтрымцы Гарадоцкай Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" і Віцебскага аддзялення ГА "Фонд імя Льва Сапегі"*